16
1928

# Беларускі піонэр





„Эх, картофля, эх, картофля—піонэрскі ідэал!“




Плякат, выданы ЦК МОПР'у Беларусі да міжнароднага юнацкага дню. Гэты-ж плякат надрукаваны на асобных картках і будзе прадавацца на карысьць палітычных зьняволеных.

## ЗЬМЕСТ



# ШТО ЧЫТАЦЬ.

**„Апчхі“**—Міхайлава. Выд. „Чырвоная Зьмена“. Стар. 64. Цана 25 к.

„АПЧХІ“—вельмі цікавае і захапляючае па жывасьці падзеяў апавяданьне з часоў грамадзянскай вайны. Гэта апавяданьне з ахвотай чытаецца дзяцьмі. Яно ўжо мае 2 выданьні ў расійскай мове, а зараз надрукавана і ў беларускай.

Цана кніжачкі „Апчхі“, як і ўсіх іншых, што перавыданы в-твам „Чырвоная Зьмена“ з расійскай, украінскай моваў, не вялікая. Такую справу па выданьню таннай дзіцячай кніжкі з лепшай літаратуры іншых моваў трэба толькі вітаць.

Нашым-жа актыўным пікорам і ўсім піонэрам трэба сур'ёзна паклапаціцца прасунуць гэтыя цікавыя кніжачкі ў шырокія гушчы дзяцей, асабліва вясковых.

Трэба ўзьнімаць пытаньні перад мясцовымі школамі, каб яны набывалі гэткія кніжачкі для папаўненьня сваіх бібліотэчак.

**„На падводнай лодцы“**—А. Новікава-Прыбоя. Выд. „Чырвоная Зьмена“. Цана 10 кап.

Расійскі пісьменьнік Новікаў-Прыбой досыць вядомы сваімі апавяданьнямі прыгодніцкага характару.

Піша ён даволі мастацкі і разам з гэтым амаль заўсёды піша пра цікавае, чым абавязкова захопіцца чытач.

У апавяданьні „На падводнай лодцы“ апісваюцца моманты з барацьбы вайсковых суднаў на моры ў часе вялікай сусьветнай вайны. Між іншым, мастацкая літаратура, якая адбівае вайсковыя падзеі на моры, у нас зусім нязначная па колькасьці.

Гэта кніжачка робіць досыць цэлае закончанае ўражаньне ўсіх тых трагічных момантаў, якія могуць трапіцца з судном і людзьмі на моры ў часе боек. Кніжка, як і іншыя, выдана з малюнкамі.

**„Кармілец“**—Д. Мамін-Сібірака. В-тва „Чырвоная Зьмена“. Цана 10 к.

Дзеці-рабочыя ў часы панаваньня царызму несьлі на сваіх плячох горшы цяжар і крыўды, чым нават дарослыя.

Толькі-ж бяздольнае, горкае жыцьцё выганяла досыць шмат соцень і тысяч дзяцей на заводы, фабрыкі, дзе з дзяцей зьдзекваліся, ня лічыліся з іх сілай.

У апавяданьні „Кармілец“ якраз і паказана жыцьцё і праца дзяцей на заводзе і тыя трагічныя вынікі, якія былі масавым зьявішчам.

**„Зімоўка на студзёнай“**—Мамін-Сібірака. Выд. „Чырвоная Зьмена“. Цана 10 кап.

У апавяданьні „Зімоўка на Студзёнай“ малюецца жыцьцё беднага чалавека—купецкага вартаўніка, які жыў далёка ад людзей на гандлёвым шляху. Жыў ён разам з сваім верным сабакам Музгаркам.

Суровыя малюнкі паўночнай прыроды, адзінокае жыцьцё ў лесе сярод рознага зьвяр'я, сьмерць Музгаркі і, як вынік ад гэтага, прысьпешаная сьмерць вартаўніка—вось канва апавяданьня.

Напісана яно досыць жыва, літаратурна. Мамін-Сібірак наогул лічыцца адным з буйнейшых дзіцячых пісьменьнікаў.

Апрача гэтых кніжак, вышлі яшчэ наступныя:

1) **„Якубка-цыганёнак“** — В. Краснашчокава Цана 10 к.

2) **„Міністар на гадзіну“**—Фр. Фокса. Ц. 10 к.

3) **„Бяз маці“**—Е. Адамовіча. Цана 10 к.

Усе яны прыгодны для дзяцей сярэдняга і некаторыя („Апчхі“, „Кармілец“) з ахвотай будуць праслуханы і прачытаны дзецьмі малодшага ўзросту.


Рэдколегія: **БАЛІЦКІ А., БРЫГНЕВІЧ Г., ПЯКАРЧЫК А., СЬЦЯПАНАЎ Х., ЯКІМОВІЧ А.**

Адказны рэдактар **А. ПЯКАРЧЫК.**

*Год выданьня 4-ы.*

**Да змаганьня за справу працоўных—будзь гатоў!**





| УМОВЫ ПАДПІСКІ: | ДВУХТЫДНЁВАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЧАСОПІСЬ. Орган ЦК ЛКСМБ і НАРКАМАСЬВЕТЫ БССР. | АДРАС РЭДАКЦЫІ: |
|---|---|---|
| На 1 месяц . . . — р. 20 к. | | МЕНСК, |
| „ 3 „ . . . . — р. 60 к. | | Комсамольская, 25. |
| „ 6 „ . . . . 1 р. 20 к. | | |

**№ 16** **ЖНІВЕНЬ** **1928 г.**


# КОЛЕКТЫЎ ВЫХАВАЎ ІХ.

Каго вы толькі ня сустрэнеце тут? Вось гарадзкія дзеці, што страцілі бацькоў і сталі бяспрытульнымі; вось вясковыя хлапчукі, якіх гора прывяло ў горад...

Тут вы сустрэнеце і такіх, якія аб'езьдзілі ці мала гарадоў нашага саюзу. Вось, напрыклад, Ванька Вавілаў, з Ніжняга Ноўгарада. На ўсходках вагону ён праехаў дзесяткі гарадоў, пакуль не апынуўся ў Менску.

Бацька Ванькаў у час вайны з голаду памёр...



Група бяспрытульных

Але не пазнаць цяпер бяспрытульнага Ваньку. Ён цяпер над задачамі галаву ломіць, — у школу трэба паступаць. Апрача таго, марыць стаць піонэрам. А нядаўна ён мадэль самалёту змайстраваў і прымайстраваў да страхі клюбу. Ад ветру пропэлер хутка круціцца, а Ванька ўсьміхаецца і, прымаючы сур'ёзнае аблічча заяўляе: — „Мой адказ Чымбірліну!“

У клюбе-сталоўцы знайшлі сабе прыстанішча 180 хлапчукоў. Тут яны харчуюцца, а частка жыве і заўсёды тут.

Ёсьць свае майстэрні: шавецкая, па выбару люстэрак і кравецкі гурток, дзе дзеці атрымліваюць працоўныя звычкі. Майстэрні вырабляюць тавар як для продажу, так і для сябе.

Пры клюбе ёсьць вялікі фруктовы сад і невялічкі агародзік.

Пад кіраўніцтвам старэйшых самі дзеці кіруюць усім жыцьцём клюбу. Ёсьць дзіцячы камітэт („вышэйшы орган“), гаспадарчая, санітарная і культурная комісіі.

— Што-ж ваша санітарная камісія робіць? — пытаюцца ў дзяўчынкі з сан. камісіі.

— Работы хапае!— прыбіраем пасуду, глядзім, каб чыстымі былі дзеці, пакоі, каб было сьвежае паветра ў пакоях,—сьмела адказала тая.

Большую частку дню дзеці праводзяць у садзе на пляцоўцы. Тут ёсьць усялякія гульні: кракет, кеглі, мячыкі і прылады для спорту. Два разы на тыдзень займаюцца фізкультурай.

Пры клюбе ёсьць радыё. Самі дзеці антэну ўстанавілі, а цяпер па чарзе слухаюць канцэрты і даклады.

— А вось нашыя газэты, — паказвае „насьценгазэтчык“ вялікі скрутак газэт. А газэтамі дзеці могуць пахваліцца. Газэты іх вельмі цікавыя.

У мінулым годзе меншая палова дзяцей вучылася ў школах, у гэтым-жа годзе будзе вучыцца большасьць дзяцей.

Выхаванцы паступова пасылаюцца на работу.

Э Г-н.

# Бяспрытульныя





*Апавяданьне вучня* **Л. Царанкова.** *Малюнкі ў тэксьце вучня* **Саматыя.**

1.

Цёмная марозная ноч, па полі мчыцца таварны цягнік. У вагоне гэтага таварнага цягніка ехала чалавек пяць бяспрытульных „зайцамі“.

Цюкі, скрынкі — вось абсталяваньне гэтага вагону, у якім ехалі „зайцы“. Але ім што?—сядзяць сабе між розных пакункаў, скурчыўшыся, сядзяць слухаюць апавяданьні адзін ад другога, цягаюць па чарзе папяросу, сьпяваюць, але паціху, каб не пачула адміністрацыя цягніка.

Раптам цягнік спыніўся. У дзьвярах таго вагону, дзе сядзелі „зайцы“, забразгаў званок, і ў вагон ўвайшлі грузчыкі, разам з наглядачом. „Зайцы“ паціху павылазілі з вагону на пэррон, прайшлі праз станцыю, ня мінуўшы пакруціцца ля касы і буфэту, і пайшлі здабываць новы прытулак.

Неўзабаве яны падыходзілі да цырку—мейсца, дзе яны заўсёды спыняліся начаваць зімой. Скокнулі на плот, потым на страху цырку, праз купал і—у цырк.

— Стой, хто там?—пачулі хлопцы голас. Перапалохаліся, кінуліся ў бок...

— Ня бойцеся, браткі, у нас няма чаго красьці—мы бяспрытульныя,—пачулі голас хлопцы. Яны пасьмялелі, запалілі канчар сьвечкі, аглянуліся наўкола, але ў цырку, акром лавак, ня было нікога і нічога. Ды мы на галёрцы!—пачулі хлопцы галасы людзей. Хлопцы зарадаваліся і палезьлі на галёрку. Пасябраваліся, засьпявалі песьню:

Ішла баба па ваду
На ўсім бабячым хаду!..
Эх голь, голь мая,
Бяспрытульная!

У хлеў за вёдрамі зайшла
Бяспрытульнага знайшла...
Эх голь, голь мая
Бяспрытульная!..

— Вы адкуль сюды прыпёрлі?—запытаў Янка—адзін з старых жыхароў пустога цырку, у навічкоў.

— З Масквы-та—адказаў навічок Пятрок.

— Як вы прыехалі?—пытае Ванька.

— У таварным,—адказвае Пятрок.

— Малайцы!.. Але вы, сукіны каты,—кажа Ванька—за кватэру павінны даставаць курыць нам. Згодны?

— Згодны!—адказваюць навічкі.

Усе як старыя, так і новыя жыхары цырку, акром Пятрука, былі беларусы.

Пятрок быў вясёлым хлопцам, жыцьцярадасным, сьмелым.

— Ну, дык давайце завернем. Вытрасайце кішэні!—камандуе Сенька Цьвік навічкам.

Хлопцы скруцілі па цыгарцы на дваіх, пакурылі. „Ну, а цяпер спаць!“—скамандваў начальнік старых, цяпер і новых, жыхароў, Сенька Цьвік.

Усе палеглі спаць, бо, сапраўды ўсе слухаліся яго.

Ціха ўночы на вуліцы, ціха ў цырку, толькі зрэдку адтуль вырываецца манатонны храп яго жыхароў, альбо, праехаўшы па вуліцы хурман парушае начную ціш...

Эх, ноч,—зімовая ноч! Колькі ў табе марознага хараства! Усё сьпіць... Ня чутна гарадзкога шуму; ён прыціх...

2.

Раніцай прачнуліся жыхары цырку. Перш-на-перш яны закурылі, агледзеліся, і разыйшліся хто куды на „здабычу“, умовіўшыся сабрацца ў „хаце“ на агульную вечарынку, разам са здабычай.

Разыйшліся хто куды: Сенька ў кіно, Янка і Пятрок па крамах, Міцька у піўную.

Шпаркім крокам накіраваўся Сенька ў кіно, бо добра ведаў, што там можна пажывіцца на грошы, альбо ў буфэце, альбо зайцам залезьці на дняўны сэанс. Па дарозе сваю дзейнасьць праяўляў вельмі нязначна: стырыў у гандлярак яблык, абаранак, у папяросьніка—пачак „пушак“,—як відаць дзейнасьць нязначная.

Хутка падышоў ён да кіно з папяросаю ў зубах. Хадзіў там, хадзіў—нічога ня выхадзіў. З гора ушчыпнуў адну дзяўчыну.



*... скурчыўшыся, сядзяць, слухаюць апавяданьні адзін ад другога...*

— Басяк!—пачуў ён голас пацярпеўшай.

— Такім машэньнікам у Савецкай краіне месца няма! — пачуў ён злосны голас кавалера той паненкі.

Тут Сенька вылаяўся па „маме“ на іх. Кавалер, як ашпараны, падскочыў да Сенькі біцца. Сенька, вядома, ня трус: стукнуў яму ў зубы, дый ходу. Крыкі: „Міліцыянэр!.. Лаві!.. лаві!..“ Мешаніна, натоўп—усё гэта нарабіла столькі шуму, што Сеньку свабодна ўдалося ўцячы. Дабегшы да другой вуліцы, Сенька прыпыніўся, ачухаўся, паправіўся, успомніў сваё заданьне і рашыў выканаць яго: падыйсьці да тэатру,—там стаяла чарга за білетамі.

Падышоў да тэатру. Стаў каля апошняга ў чарзе.—Давайце, я вам куплю білеты без чаргі,—кажа Сенька.

— Купі, заробіш пятак. Дзяржы руку... два білеты ў лёжу.

Сенька забраў грошы, улез у вакенца касы: „Два на галёрку!“—„70 кап. з вас“—прапішчаў тоненькі галасок з вакна касы.

Сенька забраў білеты і ходу, толькі яго й бачыў. Ужо ў кішэні было рублі тры. Абрадаваўся гэтаму, і зайшоў у піўную, выпіў бутэльку піва і купіў бутэльку „хлебнага“ для вечарынкі. Купіў і пайшоў дадому.

Таварышоў дома ён чакаў з добрую гадзіну.

3.

Сабраліся хлопцы са „здабычай“, выпілі „хлебнага“, закурылі, пачалі гутарыць.

З іх гутаркі можна было пазнаць, што ўсе навічкі, акром Пятрука, беларусы, бацькі якіх па дарозе ў Сібір памерлі. Шмат можна было з іх гутаркі даведацца аб Сібіры.

У кожнага з хлопцаў шмат здарэньняў і прыгодаў: адзін начаваў на Амуры пры марозе ў 50 градусаў, другі сядзеў у турме і ўцёк адтуль і г. д.

— А дзе-ж Лёнька?—пытаецца ва ўсіх Сенька Цьвік—начальнік каманды.

— Няма Лёнькі... пачалі трывожна перашэптвацца хлопцы:

— Дзе-ж ён мог дзецца? Ці не папаў у міліцыю?..

Яны не памыляліся. Лёнька вышаўшы з цырку накіраваўся ў царкву. Там ён выжабраваў трохі грошай. Па дарозе дадому ён быў зачэплен нейкім хлапчуком.

— Басяк!—крыкнуў той на Лёньку.

— Ах ты такі да гэтакі, я-ж табе пакажу сябе!—і, што называецца, ляпнуў малышу ў морду. Кроў пацякла з носу малыша. Наскочыў мільтон, узяў Лёньку за шкірку і павёў у вучастак.



*...і, што называецца, хлопнуў малышу ў морду...*

У вучастку Лёнька вёў сябе неяк ня вольна: на ўсіх глядзеў падазрэнна, у кожным чалавеку бачыў свайго заядлага ворага.

— Ты хто такі?—пытае ў Лёнькі дзяжурны.

— Бяспрытульны,—адказвае Лёнька.

— Як завуць?

— Лёнькам,

— Па бацьку?

— Язэпаў.

— Прозьвішча?

— Кукса.

— Колькі год?

— Шаснаццаць.

— Ты што-ж гэта, сукін кот, хуліганіш?

— А чаго ён лезе першым?

— Ну, ну—адгаварвайся,—крыкнуў на Лёньку дзяжурны, узяўшыся за тэлефонную трубку.

— Дайце Акрано,—сказаў ён у трубку. Тут у нас бяспрытульны, як-бы яго прыстроіць?.. Так, да пабачэньня...— павесіў ён трубку і кажа да Лёнькі:

— Ну, сукін кот, ідзі за гэтым міліцыянэрам... У цябе дакумантаў ніякіх няма?

— Не, няма.

— Ну, ідзеце... Пачакайце... Ты, Лёнька, скажы, дзе вы цяпер жывяцё?—Сказаў дзяжурны ні то строгім, ні то мяккім голасам.

— У цырку.

— ???

— Але, у цырку.

Прышоў Лёнька з мільтоном у Акрано. Мільтон пайшоў, а з Лёнькі зьнялі допыт падобны таму, што зьнімалі ў міліцыі.

Нарэшце яму сказалі, што яго завядуць у дзіцячы дом. Лёнька зарадаваўся і пашоў у дзіцячы дом з выкліканым міліцыянэрам.

Там далі яму пад'есьці, памылі, далі вопратку.

Хлопцы ў дзіцячым доме сустрэлі яго з „макаронамі“ і з іншымі падобнымі да гэтага рэчамі.

Лёнька застаўся ў дзіцячым доме.

. . . . . . . . . .

Яго быўшыя таварышы сядзелі ў цырку і думалі аб ім.

— Ну, трэба-ж гуляць,—кажа Сенька.

— Давайце зробім француськую барацьбу!—прапануе ён.— Я буду арбітарам!

— Давайце, давайце!—закрычалі ўсе.

— Хто будзе з кім бароцца? — пытае Сенька.

— Я з Юркам!—крычыць Янка.

— Янка й Юрка—на сярэдзіну.

Пачалі бароцца. Публіка з захапленьнем сочыць за барацьбой...

Раптам расчыніліся цыркавыя дзьверы і ў цырк увайшло тры міліцыянэры, а адзін застаўся каля дзьвярэй...

У хлопцаў аж ёкнула пад сэрцам.

—Марш за намі!—скамандваў самы старэйшы.

Хлопцы паслухмяна, як авечкі, пайшлі за мільтонамі...

4.

— Фі, як праціўна вазіцца з гэтымі бяспрытульнымі!—кажа машыністка начальніку міліцыі, седзячы ў яго габінэ-

це:—Гэты Гузак, мусіць, зноў прывядзе цэлую шайку... Як гэта няпрыемна!

— Вы-ж...

Не пасьпеў начальнік закончыць сваю думку, як у габінэт увайшоў міліцыянэр і сказаў: „Прывялі бяспрытульных. Што з імі рабіць?“

-- Аддайце ў Акрано.

Гэта і былі бяспрытульныя, жыхары цырку. Цяпер іх накіравалі ў Акрано: адтуль, зьняўшы з кожнага допыт, падобны таму, які здымалі раней з Лёнькі,—у дзіцячы дом.

Па дарозе ў дзіцячы дом хлопцы былі ў добрым настроі: сьмяяліся, штурхаліся, жартавалі.

Прышлі ў дзіцячы дом. Спачатку памыліся, потым пад'елі, пераапрануліся ў чыстую вопратку...



# КАЎКАСКІ ДЭЛЕГАТ.

* * *

Зьніклі дзесьці за плячыма горы.
Зьнік прыгожы, сонечны Каўказ.
Толькі хвоек мілыя вузоры
Пра жыцьцё зьвіваюць новы сказ.

Зьнікла мора. Хвалі не цалуюць
Нясьціханым шумам берагі.
Едзе ён у старану другую,
Едзе ён да каменнай Масквы.

Там на зьезьдзе кіне сваё слова
Пра свой быт і пра сваё жыцьцё,
Там на зьездзе тысячы галоваў
Прывітаюць ласкава яго.

Скажа ён, што добра і што дрэнна
Там, у іх адноўленым жыцьці,
Дзе, ў каго якія дасягненьні...
Едзе ён да дарагой Масквы...

Цёмны твар і радасныя вочы
Паглядаюць на жыцьцё мілей.
На капальнях, як раней, рабочы,
Але ўсё ня гэтак, як раней.

На Каўказе новыя заводы,
Аб другім зьвініць, пяе Тыфліс.
Паміж жоўтых гор, дзе сонца ходзіць,
Гукі, звоны працы палілісь.

Дзесь далёка зьніклі, зьбеглі горы,
Не цалуе хваля берагі.
Дрэмле гай у сонечным прасторы.
Прытуліўся вечар да зямлі.

* * *

Цішыня. У анямеўшай залі
Льлюцца зернем словы у цішы.
Гэта ён. І з радасьцю віталі
Тут яго сягоньня галасы.

За вакном Масква: Масква такая,
Што й ня сьніў ніколі пра яе...
Гэты грукат, сьвіст і звон трамваяў
Робяць нейкі шум у галаве.

усё мінулае—туманам...
Усё сягоньня хочацца забыць.
Бо Масква вялікім, вяліканам
На парозе новага стаіць.

* * *

Поезд зноў імчыцца да Каўказу,
Сьціхнуў звон вялізарнай Масквы.
Ён пра ўсё таварышам расскажа,
Выльле ўсё, што мае на душы.

Прападаюць і бягуць дарогі
Між высокіх зеляністых гор.
У галаве вясёлых думак многа,
Навакол—нязьмераны прастор.

Зноў ён бачыць праз ваконца горы,
Зноў прыгожы сонечны Каўказ.
Рвуцца з сэрца словы у прасторы
Расказаць пра жыцьце новы сказ.

**Ал. Розна.**

# ТЫГРА—ЛЮДАЕД.

*Апавяданьне* П. Інфанцева. *Малюнкі* Р. Семашкевіча.

I

Браты Дуркур і Ньямо, прыехаўшы з рыбнай лоўлі, засталі свае сем'і за гарбатай. Яны былі роднымі братамі, абодва былі жанатымі і жылі ня дзелячыся. У таго і другога было па некалькі дзяцей. Апрача таго, у іх быў яшчэ жывы бацька Калгама, дзед гадоў 70-ці, які амаль заўсёды быў дома з дзецьмі, калі ўсе дарослыя йшлі на работу,—мужчыны на паляваньне, а жанчыны дзе-небудзь за ягадамі, або йшлі зьбіраць дзікія плады і розныя карэньні. Жонкі ў Калгамы даўно ўжо ня было, і ён жыў удаўцом.

— Фудзі, Хамза, ідзеце, бярэце рыбу там на беразе ў чаўнаку,—сказаў Дуркур, уваходзячы ў фанзу і прысядаючы ля ачагу, дзе прыветна цеплілася вогнішча, кіпеў чайнік куды яго жонка паставіла для яго кубак з варанай рыбай.

Ньямо таксама прысеў па прыкладу Дуркура, і хутка абодвы рабаловы борзда-борзда забарабанілі драўлянымі палачкамі, якія ў гольдаў, як і ў кітайцаў, замяняюць нашы лыжкі ці відэльцы.

— Шмат рыбы?—запытала Фудзі.

— Адна вялікая калуга. Хопіць.

Жанчыны, захапіўшы з сабою нажы і кошыкі, пайшлі на бераг. За імі ўсьлед пабеглі і дзеці.

У той час, калі браты елі, дзед, які ўжо абедаў, выцягнуўся на нарах і пачаў набіваць тутунём люльку.

— Дай мне сваё крэсіва,—зьвярнуўся ён к Дуркуру, жадаючы закурыць.

— А ты сваё дзе падзеў?—запытаўся той.

— Я кінуў сваё крэсіва ў ахвяру тыгру, сыну вялікага духу, сьляды якога бачыў надай у тайзе,—сказаў дзед, прыкметна зьніжаючы голас пры апошніх словах.

Абодвы браты ад гэткай весткі так застылі з расчыненымі ротамі ад зьдзіўленьня і страху.

— Ты бачыў сьляды „яго“?—з жахам ад веры ў сапраўднасьць гэтага прашаптаў Дуркур.

— Так, толькі ня трэба аб гэтым казаць жанчынам, бо яны напалохаюцца і, напэўна, ня будуць выходзіць з фанзы.

— Але-ж ён можа іх зьесьці?

— Ён людзей не чапае.

Як не чапае? А хто ў мінулым годзеўкраў у Пярменкі дзіця? Калі-б не расійскія казакі, што забілі яго, дык шмат людзей ён пераеў-бы.

— Дык гэта-ж быў выгнанец вялікага духа, гаспадара тайгі. Гэткія бываюць вельмі рэдка. А звычайны тыгра, як вы самі ведаеце, ніякай шкоды гольдам няпры-



*У фанзе прыветліва цеплілася вогнішча.*



*Дзед пайшоў у тайгу...*

носіць, апрача карысьці, бо ён пасылае нам зьвяроў, якія складаюць усё наша багацьце,—пярэчыў дзед сынам.

— Расійцы кажуць, што гэта няпраўда, што кожны тыгра здольны нападаць на чалавека і зьядаць яго. А чаму ты ведаеш, што гэты ня зробіць тое-ж самае?—запытаў Дуркур.

— А калі нападзе, тады і відаць будзе, што гэта выгнанец і адрачэнец гаспадара тайгі. Датуль-жа перасьледваць яго ня можна, бо можна ўгнявіць самога гаспадара, вялікага духа, і ён перастане нам пасылаць зьвяроў. Расійскія казакі так кажуць таму, што ў іх ёсьць свой бог, які ім памагае, і таму яны не баяцца нападаць на тыгру; нам-жа ня можна гнявіць сваіх багоў, бо ад гэтага дрэнна будзе. Мне ня раз на сваім вяку даводзілася спатыкацца з тыграю, і ніколі ён мяне не чапаў.

— Што-ж ты рабіў, калі спатыкаўся з ім?—запытаў Ньямо.

— Я кідаўся перад ім на калені і ўпрашваў яго, і ён заўсёды адступаўся, не чапаючы мяне. Цяпер іх стала мала, яны рэдка калі зьяўляюцца ў нашым краі, але раней іх было тут досыць шмат.

— А з якога часу іх паменшала?—запытаў Дуркур.

— Ды вось, як наехала сюды шмат расійцаў; яны разагналі іх, але затое з тых часоў і іншых зьвяроў у нашых лясох стала менш, бо тыгры перасталі заганяць іх да нас. Вось тады й гольды пачалі бяднець, галадаваць, і сярод іх пачалі хадзіць розныя хваробы... Не, нам ня зьнішчаць трэба тыграў, а маліць і прасіць іх, каб яны як найбольш прысылалі нам сюды рознага зьвяр'я, ад якога залежыць наша жыцьцё. Кідаецца-ж на чалавека першым толькі той тыгра, які ў чым-небудзь вінаваты перад гаспадаром гор і тайгі, і ён адрокся і прагнаў яго ад сябе. Ну, такога абавязкова трэба забіць, бо, калі ён ужо раз паласаваўся чалавечым мясам, ён потым не захоча нічога другога.

— Мне не здаралася спатыкацца з „ім“, але я чуў яго голас у тайзе... Ой,ой, як страшна!—сказаў Дуркур.

— Я таксама чуў, і зусім не хацеў-бы сустрэць яго зблізку,—адказаў Ньямо.

— Галоўнае, калі яго спаткаеш, трэба кідацца перад ім на калені і ён ніколі не зачэпіць,—паўтарыў дзед.

Тым часам жанчыны вярнуліся з кашамі, поўнымі рыбінага мяса і распачалі абчышчаць яго, а мужчыны пасьля яды палеглі на нарах і закурылі люлькі.

II.

У гэту ноч сабакі на дварэ вельмі моцна брахалі і вылі, а калі на заўтра гольды ўсталі, яны не далічыліся аднаго сабакі і, на зьдзіўленьне, неўзабаве ўбачылі сьляды страшнога зьвера, што пераскочыў у адным мейсцы праз загараду і ўкраў сабаку.

Гэта навіна страшна зьдзівіла і напалохала ўсіх. Жанчыны баяліся выходзіць з фанзы і цэлы дзень сядзелі дома. Але дзед успакайваў усіх, кажучы, што такі тыгра ходзіць толькі ўначы, а ўдзень сьпіць дзе-небудзь у глухім, цёмным лесе, і што тыгра, які ўкраў сабаку, ня можа быць людаедам, бо ён і еў-бы толькі людзей, а не сабак. Ён нават сказаў, што хоча пайсьці адшукаць яго бярлог і палажыць каля яго—у ахвяру зьверу—бутэльку ханшыну, каб гэтым падкупіць яго больш не хадзіць у іх фанзу. Дарэмна сыны ўгаварвалі бацьку не рабіць гэтага, бо хто ведае, які́м мог быць тыгра: ён мог быць адрачэнцам вялікага духу і зьесьці

старога. Але той упарта парашыў выканаць сваю пастанову, угаварваючы, што тыгры-людаеды бываюць рэдка, і што гэты, атрымаўшы падарунак, бясспрэчна, не зачэпіць яго.

Тады Дуркур і Ньямо пачалі прасіць бацьку дазволіць ім пайсьці з ім, захапіўшы стрэльбы, каб абараніць яго ад лютага зьвера ў выпадку небясьпекі, але Калгама і чуць аб гэтым не хацеў. Гэта азначала-б, па яго думцы, ня верыць богу, які сядзіць у тыгры, і абясславіць гэтым самым вялікага духа. Ён узяў ад сваіх сыноў слова, што тыя ня пойдуць за ім, і толькі, калі ён ня вернецца да ночы, дык на наступны дзень пачаць яго шукаць.

Дзед пайшоў у тайгу і накіраваўся па зьвярынай сьцежцы, якая пракладзена была ў густым, першабытным лесе. Ён бачыў па сьлядох тыгры, што зьвер прыходзіў да іх толькі па гэтай сьцежцы.

Доўга йшоў стары Калгама, пакуль не зайшоў у глухі, густы лес. Ня гледзячы на ясны дзень, праменьні васеньняга сонца амаль не даходзілі да ствалоў гэтага векавога лесу. Навакол была цудоўная align рознастайнасьць расьліннасьці. Розныя дрэвы, што ўзьнімаліся на дзесяткі сажняў ад зямлі да неба, абвітыя густою сьцяною розных кустарнікаў, загараджалі дарогу, і Калгама губляўся сярод гэтага бязьмежнага ляснога акіяну, як нікчэмная мошка. Вагністыя, чырвоныя, жоўтыя, ярка-лілёвыя, белыя і ружовыя плямы выступалі на цёмнай зелені лесу. Чырвоны ліст дзікага вінаграду віўся прыгожымі гірляндамі па цёмных ствалох кедраў і дубоў, стракатая тавалга хавалася пад ярка-зялёным арэшнікам, срабрыстая іва—пад стройным ільмом. Як яркія каралі, іскрыліся сярод рознастайнай зелені маністы рабінаў, мітусілася цёмна-малінавая вішня, блішчэлі залатыя яблычкі і грушы, і, быццам дарагія пацеркі, віселі веткі дзікага вінаграду. Вялізарныя векавыя дубы, хвойкі і кедры, рыхтуючыся да доўгага зімовага сну, ужо адзеліся ў срэбныя мхі і пушністыя гірлянды сівых лішаёў.

Асьцярожна пралазіў стары Калгама па зьвярынай сьцежцы, шукаючы бярлогу тыгры, як раптам яму пачуўся нейкі шорах за сьпіною, і не пасьпеў ён аглянуцца, як нешта цяжкое з шумам прамільгнула над яго галавой і грукнулася наперадзе яго ў некалькіх шагох... Калгама з жахам убачыў, што гэта быў тыгра, што ён ішоў за ім сьледам, але дрэнна скокнуў і пераскочыў праз галаву свае ахвяры.

Адзін момант—і стары кінуўся к бліжэйшаму дрэву і пачаў узлазіць на яго.

Але гэта было вялікай памылкай.

Звычайна бывае так, што калі тыгра, які дрэнна разьлічыць свой напад і пераскочыць, ашукаецца, дык ён ужо не паўтарае яго і бяжыць прэч, нібы саромяючыся свайго прамаху... Магчыма, тут іграе ролю тое, што нават гэтаму заядламу драпежніку выгляд чалавечай фігуры на двох нагах з разумным чалавечым поглядам надае пэўны страх, таму ён і не нападае ніколі сьпераду, нават на чалавека бяз зброі і толькі зьнячэўку, неспадзяваным скокам, адважваецца зрабіць такі напад. Але, калі гэты скок бывае няўдачным, ён ужо не паўтарае яго і бяжыць прэч.

Гэтак, напэўна, зрабіў-бы тыгра і цяпер, але, убачыўшы, што ахвяра напалохалася яго і стараецца ад яго ўцячы на дрэва, люты зьвер узлаваўся яшчэ больш і кінуўся сьледам за старым Калгамай.

Аднак Калгама пасьпеў ужо ўзьняцца на дрэва на гэтулькі высока, што тыгра, ня ўмеючы лазіць па дрэвах, ня мог яго схапіць. Ён з лютай злосьцю пачаў скакаць вакол дрэва, але ўсе яго патугі былі дарэмны: Калгама сядзеў высока, і дастаць яго было немагчыма. Тады драпежны зьвер, стаміўшыся ад дарэмных патуг, спакойна лёг каля дрэва і, навёўшы свой погляд на Калгаму, які сядзеў на суку, цярпліва пачаў весьці супроць яго правільную асаду, чакаючы, калі той сам зваліцца з дрэва.

Вельмі позна стары гольд зразумеў сваю памылку, вельмі позна ён пераканаўся, што тыгра быў людаедам. Ён пачаў крычаць і клікаць аб дапамозе, але фанза яго была далёка, а спадзявацца каго-небудзь у глухой, бязлюднай тайзе, няма чаго было і думаць. Пачуць яго ніхто ня мог.

Час ішоў, а зьвер і ня думаў пакідаць свайго мейсца. Прышоў вечар. Змрок пад абоймамі векавога лесу згушчаўся ўсё больш і больш. Хутка Калгама перастаў ужо што-небудзь бачыць унізе

пад сваімі нагамі, апрача страшных вачэй зьвера, якія гарэлі ў цемры фасфарычным бляскам. Мускулы Калгамы ад доўгага сядзеньня ў дрэннай, стамляючай позе на суку дрэва слабелі ўсё больш і больш. Ён быў ужо стары і для яго было цяжка доўга трымацца на дрэве. Зьвер быццам разумеў гэта і спакойна чакаў, упёршыся проста ў вочы сваёй ахвяры. У Калгамы ад гэтага пільнага погляду зьвера кружылася галава, ён баяўся вобмараку і, напэўна, адчуваў тое



*Калгана пасьпеў ужо ўзьняцца на дрэва..*

самае, што адчувае птушка, якую гіпнотызуе поглядам сваім грымучая зьмяя, калі птушка вось-вось можа ўпасьці ў разяўлены рот зьмяі. Ён стараўся не глядзець уніз, але, быццам пад уплывам нейкай невядомай сілы, яго вочы глядзелі туды самі праз сябе.

Але вось зьверу, напэўна, ці абрыдзела вартаваць Калгаму, ці ён захацеў есьці, але толькі ён раптам неспакойна зашавяліўся, устаў на ногі, падняў галаву ўверх, пільна паглядзеў на стомленага і напалоханага да сьмерці Калгаму...

І раптам усё наўкола Калгамы задрыжала, і сэрца яго замерла ад страшэнных раскатаў дзікага голасу, які прагрымеў па ўсёй спакойнай тайзе.

Гэта зароў тыгра. Яго голас, спачатку падобны на раскаты грому, раптам абарваўся, потым перайшоў у клякатаньне, у глухі енк і потым зноў у сапраўдны зьвярыны енк.

У гэтым енку адчуваўся дзікі зьвер ва ўсёй сваёй вялікасьці і магутнасьці, лютасьці і сіле. Быццам задыхаючыся і захлёбваючыся трос ён сваім страшэнным голасам начную цішыню лесу, і далёка імчаліся па бязьмежнай тайзе гэтыя жахлівыя, глухія, пераліўныя гукі. Шмат разоў, адгукаючыся ім, глухое рэха разносіла іх ва ўсе куткі цёмнага лесу, і калацілася тады ад страху ўсё жывое, пачуўшы гэты магутны голас цара тайгі.

Вось гэты голас на момант быццам сьціх, але злосная бурчаньне, падобнае на фырканьне вялізарнай кошкі, было толькі невялікім перапынкам пасьля якога зноў пачаліся выклікаючыя, клякочучыя гукі, здавалася яшчэ больш страшныя, яшчэ больш моцныя і жахлівыя.

Пры першых-жа гуках гэтага страшэннага голасу, Калгама ясна зразумеў, што канец яго блізкі. Ён адчуў, як усе часткі цела яго нэрвова затрэсьліся і як стукнула яму кроў у галаву і пацямнела ў вачох. Ён ледзь трымаўся аслабелымі рукамі і баяўся, што вось-вось, скінецца з дрэва проста ў ляпу драпежнаму зьверу.

І сапраўды, пры трэцім раскаце грому ад падобнага голасу нэрвы старога гольда ня вытрымалі, ён страціў сьвядомасьць і, як куль, грукнуўся ў ляпу тыгры, які падхапіў яго на ляту сваімі страшэннымі зубамі і пацягнуў у свой бярлог.

## III.

Дарэмна хатнія Калгамы цэлы дзень з трывогаю чакалі яго,—ён не вярнуўся. Дуркур і Ньямо не пасьмелі парушыць дадзенага бацьку слова да раніцы ня йсьці яго шукаць. Прыйшоў вечар. Трывога сям'і павялічвалася з кожнай хвілінай. Неўзабаве, пасьля заходу сонца, усе ясна чулі далёкі голас тыгры і яшчэ больш занепакоіліся аб лёсе старога Калгамы.

Але вось прыйшла цёмная ноч, а стары ня прыходзіў. У страшной трывозе за яго лёс правяла ноч радня Калгамы. Ясна было, што з Калгамой здарылася нейкае няшчасьце, бо ў іншым выпадку ён ня мог без усялякай патрэбы аставацца начаваць у тайзе, дзе мог налязецць на драпежнага зьвера.

Толькі што разьвіднілася, як браты, узброенныя стрэльбамі і пікамі, накіраваліся з сабакамі ў тайгу шукаць свайго бацьку... Яны пайшлі па той-жа сьцежцы, куды пайшоў стары. Неўзабаве яны адшукалі і зьвярыную сьцежку, а на сьцежцы сьляды тыгры і чалавека. Навакол панавала поўная цішыня. Браты ўглыбляліся ўсё далей і далей у самую глушыню тайгі.

Раптам Дуркур, які йшоў наперадзе, нахіліўся і падняў з зямлі нейкую шклянку.

— Ханшын, — сказаў ён, панюхаўшы шклянку.—Гэта-ж яе бацька і нёс у ахвяру зьверу.

— Так яно і ёсьць, сказаў Ньямо, агледзеўшы ў сваю чаргу шклянку.

— Чаму ён тут пакінуты? Тут ніякага бярлогу ня відаць,—дзівіўся Дуркур.

— А гэта, што такое?—загаварыў раптам Ньямо, падыходзячы да арэхавага дрэва, на кары якога ясна відаць былі адбіткі нечых магутных кіпцюроў.

— Гэта „яго“ кіпцюры,—сказаў Дуркур, трывожна аглядаючыся па бакох.

— Што „ён“ мог тут рабіць? Тыгры ня лазяць па дрэвах, — заўважыў Ньямо, узьнімаючы вочы на дрэва.

Але тут абодвы гольды адразу заўважылі на адным з сукоў адарваны ад сьвіткі старога, калі ён падаў, кавалак сіняй кітайскай матэрыі, а на зямлі ля дрэва ўбачылі сьляды крыві, плямы якой вялі далей у глыбіню лесу.

Абодвы браты адразу зразумелі, што якраз тут, на гэтым самым мейсцы, адбылося спатканьне іх бацькі з тыграю і ўвесь малюнак гэтай крывавай драмы паўстаў перад імі як на далоні.

— Ён сарваўся з дрэва і ўпаў к яму ў рот, і зьвер разарваў яго,—заключыў Ньямо.

— Так, і ханшын ня прыняў; значыцца быў адрачэнец вялікага духа.

Браты некалькі хвілін памаўчалі.

— Так, мы павінны адпомсьціць яму за сьмерць бацькі—сказаў Дуркур.

— Мы павінны забіць яго, — дадаў Ньямо.

— Ты гатовы?—запытаў Дуркур.

— Гатовы,—адказаў Ньямо.

Абодвы гольды накіраваліся па сьлядох зьвера далей у глыбіню тайгі, асьцярожна пралазячы праз густы векавы лес, сьледам за сабакам, які бег наперадзе. Яшчэ ўчора яны бялелі ад страху пры адным успаміне аб гэтым зьверу, а цяпер ён страціў у іх вачох сваю магутнасьць і нязвычайнасьць і здаваўся такім-жа простым зьверам, як і іншыя, а значыцца, з ім можна было ўступаць у бойку.

І браты сьмела йшлі шукаць тыгру, гаручы жаданьнем адпомсьціць яму за сьмерць іх бацькі. Раптам сабака спыніўся і, трывожна выцягнуўшы шыю наперад, пацягнуў у сябе паветра і насаражыўся. Мяркуючы па яго поўсьці, шчэці, што паднялася на яго сьпіне, ён пачуў блізкасьць магутнага зьвера.

Наперадзе відаць была куча хворасту, або, праўдзівей, куча наваленых адно на другое, мусіць, бураю дрэваў, якія утваралі загароду. Ясна было, што там ёсьць бярлог тыгры, ён там прысутнічае ў гэты час. Абодвы гольды раптоўна спыніліся і, паставіўшы, на падпоркі стрэльбы, прыгатаваліся спаткаць магутнага ворага.

Сабака з енкам кінуўся ў бярлог зьвера, але ў той-жа момант з скавытаньнем адскочыў да ног паляўнічых. З глыбіні буралому паказаўся ўладар уссурыйскай тайгі—тыгра ва ўсёй яго велічы. Вочы яго зіхацелі гнеўным зьдзіўленьнем быццам ён быў страшэнна абураны на сьмелага сабаку, які адважыўся падыйсьці да яго бярлогу і патрывожыць яго супакой. Але ўбачыўшы перад сабой двух паляўнічых, што накіравалі на яго свае стрэльбы, ён на момант спыніўся, як-бы для таго, каб падумаць, што яму рабіць: кінуцца на іх, ці разумней усяго адступіць? Але гэта раптоўная нерашучасьць сталася для зьвера сьмерцю. Амаль адначасова пачуліся два стрэлы, і тыгра, ужо выпрастаўшы, як кошка сьпіну, каб скочыць на бліжэйшага да яго Ньямо, неяк штучна падскочыў уверх, перакуліўся праз галаву ў паветры і гакнуўся на зямлю, пранізаны двумя кулямі: адною—у сэрца, а другою—у галаву.

Браты раптам схамянуліся і, схапіўшы пікі, падрыхтаваліся да абароны; але тыгра ляжаў няжывым. Сабака падскочыў да яго і радасна забрахаў.

— За бацьку мы адпомсьцілі,—прагаварыў Дуркур.

— Так, але трэба пашукаць яго цела,—сказаў Ньямо.

Браты з сабакам накіраваліся ў самы бярлог зьвера, але, колькі яны ня шукалі цела Калгамы, яго ня было. Яны знайшлі толькі абгрызеную галаву свайго бацькі з доўгаю касою ды некалькі кавалачкаў яго адзеньня, і гэта ўсё, што асталося ад старога гольда. Усю рэшту цела, разам з касьцямі, зьеў магутны, драпежны зьвер.

*(З расійскае).*



*— За бацьку мы адпомсьцілі...*



*Кітайскія бяспрытульныя.*

# ЯНКА-МУДРАГЕЛЬ.

*Верш В.* **Астапенка.** *Малюнкі М.* **Філіповіч.**



Я—кучаравы хлопец Янка,
Жыву ў сяле, і пра мяне
Гаворка ходзіць бясьціханку,
А ў ёй—паклёпаў ня мінеш!..
Напрыклад, вось—садок Яўхіма;
У садзе—процьма яблык, сьліў...
Я йшоў на рэчку. Крочыў міма
І ў сад ня йшоў (каб цэлым быў!).
Але-ж натрапіла Марфутка.
Яна—вазьмі ды і гукні:
„Хадзі сюды,—пяе мне—хутка!
Хоць пару яблык сашчыпні!..
Ну, я й ляту туды, як вецер.
Зьеў сьлівак з пару, а ці дзьве...
Было ўсё добра.
Ды вышла-ж гэтак...
(Ах, ліха тваёй галаве!)
Яўхім прышоў да нас пад вечар
Ды справіў гвалт ды набрахаў:
„Ваш Янка—гад— крычыць,—
„малеча!“
„Сягоньня ў садзе сьлівы краў!!!“
Я гаварыў яму, вядома,
Што Марфа сьліваў мне дала...
Ды што там!
Кажа, што дадому
Яна вось толькі што прышла.
І ня была ў двары з нядзелі...
Дык значыць я—зладзюга, хам?
Ах вы, паклёпшчыкі, зладзеі!
Чакай, Марфутцы доўг аддам!..
А вось яшчэ адзін выпадак.
(Кажу са шчыраю душой!)
Да бацькі раз з сяла настаўнік
За нейкай справаю зайшоў.
Дык вось.
Прыйшоў ён ды з бацькамі
Аб чымсь размовы весьці стаў,
А акуляры тут між намі
На лаве ў шапку ён паклаў.
Ну мне, вядома, сьмешна стала!
Каб, значыць, я сьмялейшым быў
Ды ўзяў-бы іх, ды як настаўнік
Сабе на вочы пачапіў!..
Сышоў-бы ў іх я, значыць, з ганку...
У руцэ-б трымаў з крушыны кій...
Ну, ці пазнаў-бы хто з іх Янку?..
Сказалі-б: „нейкі гарадзкі“...
А я такі ўжо нораў маю:
Зраблю, як стане што карцець!
Узяў акуляры я памалу
Ды з хаты выбег нібы цень.
А ў сенцах іх сабе наставіў...
За вушы прыкруціў шнурок
Ды ў даль, як форменны настаўнік,
Пайшоў, махаючы кійком.
Іду так вуліцай панура.

Такі важнецкі—пекната!
Усе глядзяць, а нейкі дурань
Пазнаў мяне й зарагатаў...
Ну, я назад, ды колькі духу,
Бягу дахаты науцёк.
Бягу і чую як з-за вуха
Спаўзае д'яблаў той шнурок.
Паўзе, паўзе, ды аб бярвеньне
Прынада д'ябальская—р-раз!..
Разьбілася...
Я толькі ў жменю
Кавалкаў з пару падабраў.
Настаўнік гутарыў 'шчэ ў хаце.
І я, пад шум яго размоў,
Паклаў ціхутка ў шапку шклянкі
Ды з хаты ціханька пайшоў.
А потым...
Потым сам настаўнік
На акуляры ў шапцы сеў...

Такі выпадак нязвычайны!
А колькі гора з яго меў!
Дык вось які я хлопец Янка.
У нашай вёсцы пра мяне
Гаворка ходзіць бясьціха,
А ў ёй—паклёпаў ня мінеш.
Але цяпер я буду йнакшым!..
Бо адчынілася вясной
Для ўсіх дзяцей вясковых нашых
„Чырвоных Зорачак“ зьвяно.
Я быў там неяк выпадкова,
Іх сьпевы, гульні бачыў, чуў,
І вось цяпер абавязкова
Я уступіць туды хачу.
Скажэце,—прымуць мяне братцы?!
Я маю толькі сем гадоў...
І найшчырэй буду старацца,
Каб лепшым быць між іх радоў!



*І я паклаў ціхутка ў шапку шклянкі.*

# ДРАМА НА КАНЦАВОСЬСІ.

З першых дзён свайго існаваньня чалавецтва вядзе бязупынную барацьбу за заваёву прасторы. Цяжкая гэта барацьба! Шмат перашкод ставіць прырода на кожным кроку, але чалавек адважна ідзе наперад, перамагае ўсе перашкоды і паступова пранікае ў такія глухія куткі земнае кулі, дзе яшчэ ніколі ня ступала нага чалавека.

Але ня ўсё яшчэ заваёвана. Ёсьць яшчэ землі, моры і паветраныя абшары, якіх чалавек не заваяваў дагэтуль; да ліку іх належыць і Паўночнае канцавосьсе—самая няпрыступная крэпасьць на земнай кулі.

Шмат адважных людзей заплаціла сваім жыцьцём за тое, каб наблізіцца да гэтае крэпасьці, каб расчыніць тайны канцавосься. І толькі амэрыканскаму лётніку Бэрду і вядомаму дасьледчыку палярных краін Амундсэну пашанцавала ў 1926 годзе праляцець над зьмёрзлай пустыняй і зірнуць з „птушынага палёту“ на гэтае загадковае месца.

Першая задача, вырашаньнем якой людзі займаліся ў працягу апошніх сталецьцяў, была, такім чынам, выканана,—канцавосьсе дасягнута. Засталася другая задача—дакладна дасьледваць Паўночнае канцавосьсе, вывучыць мэтэоролёгічныя ўмовы ў арктычных [1]) краінах. Разьвязаць гэту задачу і задумаў італьянскі інжынэр-вынаходца Нобіле—будаўнік дырыжабля Амундсэна „Норвэгія“ і ўдзельнік яго экспэдыцыі на Паўночнае канцавосьсе ў 1926 г.

Зразумела, ня толькі дасьледваньне канцавосься было мэтай палёту. Нобіле. Былі і другія мэты, і сярод іх *не апошняе месца займае імкненьне Нобіле пахваліцца перад усімі і паказаць усяму сьвету да чаго здольны „мы — фашысты“.*

Пабудаваўшы вялізны дырыжабль даўжынёю ў 115 мэтр. і аб'ёмам у 19.000 кубічных мэтраў, Нобіле выляцеў з Мілану (горад у Італіі) 15-га красавіка г.-г. Апрача Нобіле, на дырыжаблі знаходзілася 18 чалавек, у тым ліку два радыётэлеграфісты і некалькі вучоных.

[1]) Арктычны—паўночны, які знаходзіцца ля Паўночнага канцавосься.

Пералёт праз Эўропу адбыўся без якіх-небудзь асаблівых прыгод і 6 мая дырыжабль „Італія“ (так называўся паветраны карабель Нобіле) зьнізіўся ў Кінгсбэі на Шпіцбэргэне (гл. карту), дзе ў гэты час ужо знаходзілася плывучая база экспэдыцыі—італьянскае судно „Чыта ды Мілано“, нагружанае патрэбнымі для экспэдыцыі рэчамі і матар'яламі.

Адразу-ж пасьля прыбыцьця ў Кінгсбэй, Нобіле пачаў рыхтавацца да намечаных палётаў па арктычнай краіне. Зборы цягнуліся некалькі дзён. У дырыжабль былі пагружаны, прывезеныя на „Чыта ды Мілано“, мехавыя рэчы, агня-




стрэльная зброя, лыжы, запасы харчоў на адзін месяц, а таксама запасы гаручага для матораў. 10 мая зборы скончыліся і 11-га мая раніцай „Італія“ ўзьнялася ў паветра для свайго першага палёту. Накіраваўшыся ўсьцяж паўночна-заходняга ўзьбярэжжа Шпіцбэргэна, „Італія“ паляцела да зямлі Франца-Іосіфа, але, атрымаўшы па радыё паведамленьне аб тым, што набліжаецца страшэнная бура, Нобіле павярнуў назад у Кінгсбэй, куды і прыляцеў пасьля 7-гадзіннага палёту, прычым пры спуску адзін з матораў стукнуўся аб зямлю і ледзьве не зламаўся.

Ня гледзячы на першую няўдачу, Нобіле ізноў пачаў рыхтавацца да другога палёту, і 15-га мая „Італія“ выляцела з Кінгсбэю, маючы намер даляцець да зямлі Леніна, спусьціць там некалькі ўдзельнікаў экспэдыцыі, а затым зьвярнуцца на Шпіцбэргэн праз Паўночнае канцавосьсе.

Не даляцеўшы 100 кілёмэтраў да зямлі Леніна, „Італія“ патрапіла ў густы туман, які перашкаджаў далейшаму палёту, з прычыны чаго прышлося накіравацца назад.


*Лётчык Чухноўскі.*

Другі палёт ледзьве ня скончыўся катастрофай. Дасягнуўшы Новае Зямлі, акутанай туманам, „Італія“ паляцела над ёй на вышыні 400 мэтраў. Раптам, што называецца перад „самым носам“ выраcьлі высокія горы. Пагібель дырыжабля здавалася нямінучай. Але ў самы апошні момант удалося ўзьняцца на вышыню 600 мэтраў і, такім чынам, унікнуць небясьпекі.

Пасьля 69 гадзін бязупыннага палёту, у часе якога было зроблена шмат фотоздымкаў, 18-га мая „Італія“ шчасьліва зьнізілася ў Кінгсбэі, праляцеўшы за ўвесь час больш 4.000 кілёмэтраў.

Ізноў пачаліся зборы да трэцяга палёту, прычым цяпер Нобіле зьбіраўся ляцець на Паўночнае канцавосьсе, стаць там, на якар і спусьціць там у гумовай шлюпцы [1]) двух удзельнікаў экспэдыцыі для навуковых назіраньняў. Падрыхтаваўшы ўсё патрэбнае, Нобіле разам з 15 удзельнікамі выляцеў 23 мая ў свой трэці палёт.

Пагода спрыяла палёту і праз 20 гадзін „Італія“ дасягнула канцавосься, над якім лётала каля 2-х гадзін. Але стаць на якар і спусьціць людзей не ўдалося, бо моцны вецер на канцавосьсі перашкаджаў гэтаму.

Раніцай 24 мая дырыжабль паляцеў назад. Спачатку ўсё ішло добра і „Італія“ накіравалася да Грэнляндыі, але моцныя сустрэчныя вятры вымусілі яе зьмяніць кірунак і ляцець у напрамку ўсходняга ўзьбярэжжа Шпіцбэргэна. Вось тут, па дарозе да Шпіцбэргэну, і здарылася тая катастрофа, якая так усхвалявала ўвесь сьвет.

З прычыны абледзяненьня абалочкі, вага дырыжабля павялічалася і ён пачаў хутка зьніжацца. Пры зьніжэньні на лёд, капітанская гандола, у якой знаходзілася 9 удзельнікаў экспэдыцыі, у тым ліку і Нобіле, адлучылася ад абалочкі дырыжаблю і разьбілася. На шчасьце ўсе людзі засталіся жывымі.

Пазбавіўшыся ад цяжару гандолы, дырыжабль узьняўся ў паветра і, праляцеўшы каля 30 км., зьнізіўся на лёд разам з астатнімі ўдзельнікамі пералёту. Гэта здарылася 25-га мая. Праз некалькі дзён ад групы Нобіле аддзялілася частка экспэдыцыі ў складзе 3-х чалавек, на чале з швэдзкім вучоным Мальмгрэнам, якая накіравалася шукаць зямлю.

Як толькі былі атрыманы першыя весткі аб гібелі „Італіі“, адразу-ж у розных краінах пачалі ладзіць экспэдыцыі на выратаваньне ўдзельнікаў няўдалага палёту.

Адным з першых узяўся за гэту справу наш „Асоавіяхім“, які вылучыў асобны камітэт дапамогі Нобіле. Камітэт зараз-жа паслаў экспэдыцыю на чале з праф. Візэ, якая выехала на лёдаколе „Малыгін“, маючы на борце гідрасамалёт, кіруемы лётнікам Бабушкіным. З Швэцыі, Норвэгіі, Італіі было выслана некалькі параходаў і самалётаў. На дапамогу Нобіле паляцеў і Амундсэн, якому французскі ўрад даў вялікі акіянскі гідросамалет.

Аднак першыя два тыдні пошукаў ня далі ніякіх вынікаў, бо параходы не маглі дабрацца да групы Нобіле, а самалёты маглі ў лепшым выпадку толькі скінуць харчы, бо пасадка на лёд была вельмі небясьпечна. Лёдакол-жа „Малыгін“, прыціснуты льдамі, ня мог зрушыцца з месца.

Вось чаму італьлянскі ўрад зьвярнуўся да ўраду СССР з просьбай выслаць на дапамогу Нобіле вялізарнейшы ў сьвеце

[1]) Човен.

лёдакол „Красін“, прыстасаваны для плаваньня ў льдох. На „Красіна“ была толькі надзея.

Гэта просьба была выканана і 15 чэрвеня „Красін“ накіраваўся ў палярныя льды. Кіраўніком экспэдыцыі на „Красіне“ быў назначаны праф. Сомайлавіч.

Тым часам італьлянскаму лётніку Мадуалена пашанцавала знайсьці групу Нобіле і скінуць ёй прыпасы, а праз два дні—25 чэрвеня—швэдзкі лётнік Лундборг з вялікай рызыкай зьнізіўся паблізу групы і ўзяў Нобіле на борт самалёта. Зьвярнуўшыся зараз-жа, каб забраць астатніх людзей з групы Нобіле, самалёт Лундборга перакуліўся пры пасадцы, з прычыны чаго апошні быў вымушаны застацца на ільдзіне, разам з іншымі ўдзельнікамі экспэдыцыі.

Тым часам „Красін“ сьпяшаўся на дапамогу. Пасьля доўгай і цяжкай барацьбы з палярнымі льдамі, ён, нарэшце, сьпыніўся, выбраўшы першае лёдавое поле, якое магло-б служыць аэрадромам для нашага самалёта. Адсюль і пачаліся героічныя палёты нашага лётніка Чухноўскага (які быў з самалётам на „Красіне“), аб якіх цяпер гаворыць увесь сьвет.

Удзень 10-га ліпня Чухноўскі ўзьняўся ў паветра і паляцеў шукаць групу Вільеры (італьлянскі афіцэр, пакінуты Нобіле ў якасьці намесьніка). Некалькі гадзін лётаў ён над лёдавым полем, але знайсьці групу Вільеры яму не пашанцавала.

Набліжаўся туман. Трэ‘ было ляцець назад. І вось па дарозе да „Красіна“ Чухноўскі заўважыў на лёдзе групу людзей, як выявілася потым—групу Мальмгрэна, аб чым ён паведаміў па радыё на „Красін“.

Зрабіўшы некалькі кругоў над групай, самалёт накіраваўся да лёдакола. Аднак, да гэтага часу туман згусьціўся настолькі, што прышлося ляцець надаўгад. За густым туманам карабля ня было відаць і Чухноўскі, думаючы, што ён знаходзіцца блізка ад „Красіна“, пачаў зьніжацца на лёд. У часе гэтае пасадкі, самалёт зламаў шасі, але на шчасьце ніхто з людзей не пацярпеў. Спусьціўшыся на лёд, Чухноўскі даў радыётэлеграму на лёдакол, паведаміўшы, дзе ён знаходзіцца і прасіў разам з тым, як найхутчэй рухацца на выратаваньне



*Лёдакол „Красін“.*

групы Мальмгрэна і толькі, пасьля таго як яна будзе падабрана, забраць яго з падарожнікамі. „*Не клапацецеся аб нас, выратуйце спачатку іншых*“— перадаў па радыё ён.

Дзякуючы таму, што ў часе свайго палёту, Чухноўскі знайшоў выгоднае месца, па якім лёдакол мог-бы прасунуцца наперад, „Красін“ хутка прабіўся праз лёд і шчыльна наблізіўшыся да групы Мальмгрэна, зьняў з ільдзіны двох удзельнікаў экспэдыцыі. Сам-жа Мальмгрэн, страціўшы сілы, адстаў ад свае групы і памёр на лёдзе.

Выратаваўшы двох ледзьве жывых людзей, „Красін“ паплыў на дапамогу групе Вільеры, якую і падабраў 12-га ліпеня.

Цяжка апісаць момант выратаваньня гэтых людзей. Яны, як дзеці, плакалі ад радасьці і шчыра дзякавалі сваіх збавіцеляў...

15 ліпеня „Красін“ падабраў Чухноўскага і яго спадарожнікаў, а затым зьвярнуўся ў Кінгсбэй, дзе і перадаў „Чыта ды Мілано“ выратаваных удзельнікаў экспэдыцыі. З Кінгсбэю ён накіраваўся ў Бэргэн, каб зрабіць патрэбны рамонт і папоўніць запасы апалу, а затым ізноў пойдзе на пошукі Амундсэна і групы Алясандры, лёс якіх невядомы. Будзем спадзявацца, што і гэтыя людзі рана ці позна будуць выратаваны.

Па дарозе ў Бэргэн, „Красін“ выратаваў пасажырскі параход Монтэ-Сэрвантэс, на якім знаходзілася 1800 пасажыраў. Сэрвантэс атрымаў прабоіну, наскочыўшы на падводную скалу, і калі-б не сваячасовая дапамога „Красіна“ дык ён наўрад ці ўтрымаўся-б на паверхні вады.

Гэроічная дзейнасьць „Красіна“, самаахвярнасьць экіпажу, якому прыходзілася працаваць у надзвычайна цяжкіх умовах, і асабліва самаахвярнасьць Чухноўскага выклікалі хвалю захапленьня ва ўсім сьвеце.

„Увесь культурны сьвет“ павінен быць ўдзячным экіпажу „Красіна“ за адважную спра вувыратаваньня“ — пішуць нават варожыя нам газэты.

**Віль.**

---

# У ШКОЛЕ СЬЛЯПЫХ.

Дзіўная рэч... Хлопцы і дзяўчаты (47 чал.), якія знаходзяцца ў гэтай школе, зусім нічога ня бачаць. Але, ня гледзячы на сьлепату, яны выконваюць розныя самастойныя працы. Пры школе існуюць майстэрні па вырабу шчотак і кошыкаў, у якіх працуюць самі дзеці пад кіраўніцтвам інструктароў, і робяць досыць добрыя вырабы.

Аб гэтым сьведчыць значны лік заказаў, якія атрымлівае школа ад шэрагу менскіх установ і прадпрыёмстваў. Пры школе нават маецца свой уласны магазын па продажу вырабляемых выхаванцамі рэчаў, якія раскупляюцца, як кажуць, „на расхват“.

Але мала таго, што сьляпыя робяць шчоткі і плятуць кошыкі. Вы яшчэ больш будзеце зьдзіўлены, калі даведаецеся, што яны ўмеюць чытаць і пісаць, гуляць у розныя гульні, як, напр., кракет, кеглі ды інш., нават іграць на музычных інструмантах...

Якім-жа чынам ім гэта ўдаецца?—мімаволі ўзьнікае пытаньне. Ці не зьяўляецца іх сьлепата нязначным фізычным недахопам, пры наліччы якога ўсё-ж можна нешта бачыць?

— Нікольki! Дзеці, якія выхоўваюцца ў гэтай школе зусім нічога ня бачаць,—яны нават ня здольны адрозьніць сьвятло ад цемры. У чым-жа сакрэт іх уменьня працаваць?

— Справа ў тым, што сьляпы хлопчык ці дзяўчынка, трапіўшы сюды ў школу, пры дапамозе спэцыяльных заняткаў, якія праводзіць з імі настаўнік, у высокай ступені разьвівае ў сябе пачуцьцё вошчупу. Дзецям спачатку даюць адрозьніць на вошчуп зярняты, і напрыклад, аўса і жыта, з паступовым пераходам да больш складаных рэчаў і практыкаваньняў.

Праз пэўны тэрмін выхаванец напрактыкоўваецца настолькі, што ўжо здольны рабіць самастойна некаторыя простыя рэчы. Тады ўжо для інструктара майстэрні ня трудна навучыць сьляпога сплесьці кошык з пруткоў ды лазы ці зрабіць з валасоў шчотку.

Пішуць-жа і чытаюць сьляпыя дзеці не панашаму, бо яны ня здольны адрозьніваць друкаваныя літары і наогул бачыць іх. У сьляпых існуе сваяасаблівы шрыфт і альфабэт у выглядзе кропак і працяжнікаў (нешта накшталт азбукі Морзэ), якія выціскаюцца на паперы з ніжняга боку і такім чынам іх можна ашчупваць пальцамі. Гэткім пісьмом карыстаюцца сьляпыя ўжо даўно, такімі літарамі напісаны цэлыя кнігі па розных галінах ведаў, даступныя сьляпым для чытаньня.

* * *

У школе налічваецца, як мы ўжо раней казалі, 47 выхаванцаў, узростам ад 7 да 18-ці гадоў, пры чым пераважваюць маладзейшыя. Прыём у школу адбываецца кожны год у працягу жніўня месяца; прынятыя дзеці паступаюць на поўнае ўтрыманьне школы, забясьпечваюцца інтэрнатам, вопраткай і харчаваньнем.

Мэты школы: ня вылячыць сьляпога ад свайго фізычнага недахопу, як некаторыя думаюць, бо гэта немагчыма, а падрыхтаваць яго да самастойнага жыцьця. У школе вучаць агульна-адукацыйным і палітычным навукам, навучаюць іх рамяству, якое ў будучым дасьць сьляпому пэўны заработак.





Амаль усе выхаванцы—беларусы, заняткі з імі і размовы вядуцца ў роднай мове.

З недахопаў у школе трэба адзначыць перш за ўсё цеснату памяшканьня (нехапае мейсца для інтэрнату і майстэрняў).

Другім ня менш значным недахопам зьяўляецца адсутнасьць пры школе піонэр-атраду, у якім былі-б аб'яднаны





Сьляпыя за працай: уверсе пішуць, унізе—плятуць кошыкі.

Акрамя сьлепаты, дзеці ня маюць ніякіх іншых фізычных недахопаў. Гэта дае магчымасьць вучыцца, займацца працай.

Некаторыя выпускнікі школы якія праявілі здольнасьці да рамёслаў, прыняты на працу ў шчотачную фабрыку і працколектыў па вырабу кошыкаў. Астатнія выхаванцы сёлетняга выпуску накіраваны на вучобу: хто на рабфак, хто ў музтэхнікум і г. д.

Культурна-асьветная праца ў школе пастаўлена ня дрэнна. Рэгулярна выходзіць рукапісная часопісь, маюцца гурткі: драматычны ды інш., існуе самакіраваньне ў выглядзе школькому, гаспадарчай, санітарнай і іншых камісій. Актыўнасьць дзяцей дастатковая, часта робяцца вечары самадзейнасьці, маецца клюб, музычныя інструманты, радыёпрыёмнік з гучнавяшчацелем, праводзяцца настаўнікамі галосныя чыткі кніг, часопісяй і газэт.

дзеці. Наогул сувязь з піонэрскай арганізацыяй школа мае слабую: афіцыйна да яе прымацован у парадку шэфства піонэратрад пры Наркамюсьце, які аднак амаль нічога ня робіць.

Гэтаму атраду трэба больш зацікавіцца жыцьцём сьляпых і пастарацца дапамагчы організаваць у школе атрад.

Так вучацца і выхоўваюцца ў Менскай школе сьляпых дзеці, якія, дзякуючы клопатам савецкай улады, не бадзяюцца па вуліцах старцамі, а рыхтуюцца да таго, каб стаць карыснымі сябрамі грамады.

**Я. Зіневіч.**

# ДВА ДНІ, ЯКІЯ СКАЛАНУЛІ МЯСТЭЧКА.

— Мы адступаемз мястэчка, але вернемся яшчэ... у мястэчку застануцца верныя савецкай уладзе барацьбіты...

Так адзін за другім зьмяняюцца на рыбуне прамоўцы. Кожны хоча перадаць свае пажаданьні тым, што астаюцца і, што адступаюць.

Мітынг скончан. Атрад Чырвонай арміі рушыўся, людзі рассыпаліся. Мястэчка чакае прыходу белапалякаў...

* * *

Гэтак пачалася гульня „11 ліпеня“, організаваная піонэрлягерам Ляхаўскага раёну ў Астрашыцкім гарадку. Гульня цягнулася два дні.

Усе ўдзельнікі былі падзелены на тры групы.

„*Чырвоныя*“. Павінны ў першы дзень правесьці мітынг з прычыны адыходу з мястэчка, выйсьці ў поле, заняцца там вайсковай вучобай, організаваць брыгаду імя Будзёнага, зьвязацца з „падпольлем“, прасачыць белых. У наступны дзень умацавацца ў лесе, адбіць наступленьне „белых“, перайсьці самім у наступленьне і заняць мястэчка.

„*Падпольнікі*“. У першы дзень павінны організаваць падпольле, наладзіць канспірацыю (явачныя кватэры, камітэт партыі і г. д.), зьвязацца з неарганізаванай дзетварой, з Чырвонай арміяй, правесьці агітацыю сярод насельніцтва і „белапалякаў“, організаваць мітынг пратэсту супроць уваходу „белапалякаў“ у мястэчка. На другі дзень організаваць партатрад імя Чапаева, злучыцца з Чырвонай арміяй і дапамагчы ёй заняць назад мястэчка.

„*Белапалякі*“. У першы дзень заняць мястэчка, старацца адшукаць падпольле, як мага жывей і цікавей правесьці ўваход у мястэчка (разьвесіць загады, наладзіць гульню на пляцы, суд, расстрэлы, гутарыць папольску і г. д.). У другі дзень—павесьці наступленьне на Чырвоную армію. Былі ўстаноўлены адзнакі таго ці іншага роду войск, вызначаны штабы для кіраўніцтва, правілы трыманьня і інш.

Падзеі разгарнуліся.

Крадучыся перабягаюць пляц, прамільгаюць то-сям, то-там па вуліцах маленькія фігуркі. Гэта—падпольнікі. Яны разьвешваюць проклямацыі, зьбіраюць неорганізаваных, робяць паведамленьні камітэту аб тым, як наступаюць белыя.

Але вось на пляцы мястэчка зьявілася разьведка белых.

У памяшканьне, дзе знаходзіўся падпольны камітэт, прыбягае разьведчык. Перадаўшы пароль, без якога яго ня пусьцілі-б, ён расказвае, што белапалякі ўваходзяць у мястэчка. Два нашых разьведчыкі затрыманы. У падпольлі пачынаецца напружаная праца.

* * *

### Загад № 1.

**„З 11 ліпеня г. г. м-ка Астрашыцкі-Гарадок, занятае польскай арміяй, абвяшчаецца польскай тэрыторыяй. Грамадзян просяць захоўваць супакой.**

Камэндант раёну—
Капітан **Скірмонт**“.

Польскі атрад увайшоў у мястэчка, разьвесіў загады, наладзіў дазоры, выслаў узвод салдат шукаць падпольнікаў, а іншыя спыніліся на адпачынак.

Заліваецца гармонік, чуваць крыкі, ідуць гульні.

Злоўлены чырвоны. Кароткі допыт. „Расстраляць“—крычыць камэндант. Жаўнэры вяжуць яго, вядуць да слупа і страляюць з пугача.

Ужо цямнее. Усё мястэчка на пляцы. Раптам з чырвонымі сьцягамі зьяўляюцца падпольнікі. Пакуль белыя сабраліся, каб адагнаць падпольнікаў, апошнія змаглі правесьці цэлы мітынг.

Потым даецца сыгнал—„адбой“.

Пачынаецца мітынг аб задачах і мэтах гульні, праведзенай у першы дзень.

Назаўтра рыхтуюцца да бойкі. Сёньня-ж, пакуль-што, усе ідуць спаць.

* * *

Даўгім шнурам выцягнуліся ўздоўж лесу чырвоныя. Усе замаскіраваліся зялёнымі дубцамі, чакаюць наступленьня. У штабе на палянцы пішуць загады, высылаюць разьведку, складаюць пляны абароны і наступленьня.

Белапалякі наступаюць асьцярожна: адзін узвод паслалі ў тыл чырвоным,

рэшта—перабягаюць, хаваючыся за розныя ўзгоркі, хмызьнякі.

Ужо чуваць выстралы. Чырвоныя хочуць абхінуць белых кругом і так захапіць іх армію.

Ура! рассыпалася па лесе. Белыя перайшлі ў атаку. Але неўзабаве гульня канчаецца. Пачынаецца адпачынак. Потым разам усе накіроўваецца ў мястэчка, дзе праводзяць кароткі мітынг.

— Мы ўсе цяпер чырвоныя. Цяпер ўжо няма белых. Мы вучымся ўладаць зброяй для таго, каб абараняць СССР. Салют быўшых ворагаў адны другім.

Шмат гутаркі было ў лягеры аб гэтай гульні. Агульная думка: „Цікава і карысна“.

Гэтак скончыліся „2 дні, якія скаланулі мястэчка“.

**Шамшур.**

# У ЛЯГЕРАХ.

(*З дзеньніку піонэрскага дому адпачынку ў Дукоры*).

**Пятніца 29 чэрвеня 1928 г.**

Устаю з ложка. Усе яшчэ сьпяць. Аніводнай душы. Буджу сваіх таварышоў і праз вакно (дзьверы яшчэ зачынены) бяжым мыцца.

— Уфф... так і пячэ твар халодная, як лёд, вада. Добра асьвяжыўшыся, ідзем назад у пакой, дзе ўжо кіпіць работа. Прыбіраем пакой: выцярушваем матрацы і посьцілкі, і начыста вымятаем пакой.

Раптам — дзін-дзін-дзін! гэта яшчэ толькі бранчыць званок уставаць, а наш пакой № 2 пасьпеў ужо і прыбраць і пачысьціць ложкі. Чакаем. Сядзім і чытаем, пакуль рэшта не сабралася. Прыбіраюць пакоі чыста і добра, бо наша санітарная камісія жартаваць ня любіць. Адчуваецца, што ўсе піонэры старэнна адносяцца да сваіх абавязкаў. Але вось— дзін-дзін-дзін!—чутны новы званок, які кліча на фізкультуру. Усе выбягаюць на пляцоўку, дзе ўжо нас чакае загадчык дому.

Пастроіцца!.. даецца каманда. Усе супакойваюцца. У задніх радох яшчэ „бузяць“, спрачаюцца з-за месца, дзе стаць. Але вось і апошнія супакоіліся. Пачынаюцца фізкультурныя практыкаваньні, якія бадзёра дзейнічаюць на цела пасьля сну.

— Аць... Два.

Пачынаецца ранішняя інфармацыя загадчыка аб распарадку дню. Нарэшце, званок на сьнеданьне. Кава з булкай альбо хлебам і з маслам супакойвае пустыя жываты. І піонэр ыз вясёлымі абліччамі, атрымаўшы пры гэтым яшчэ дадатковыя порцыі, вылазяць з-за стала. Нарэшце, ідзем на экскурсію ў савгас. Яснае сонечнае неба, мяняла сваe фарбы, пачынаючы з цёмна-сіняй і канчаючы бурай афарбоўкай ад часта набягаўшых воблакаў. Борзда шагаюць піонэры, зьбіраючы па да-



*На сонцы.*



*У лягерах мы памагалі ў працы сялян.*

розе палявыя кветкі. Падыйшлі да трактара. Пыхціць рухавік, слухаючыся кожнага руху рук селяніна-мэханіка. Яго цьвёрдая рука плаўна варочала гэта сталёвае дзіва. Гэтаму селяніну, як гарох пасыпаліся пытаньні: адкуль гэта? як гэта зробіцца? Селянін, убачыўшы такую зацікаўленасьць, вядома зрабіў важную міну знаўцы і адказваў так, быццам ён толькі што скончыў Акадэмію навук.

Але голад ня цётка. Дамоў, дамоў! і гурбою зноў зьвярталіся, ідучы па яскраваму аксаміту палёў, а дома ўжо чакала другое сьнеданьне. Хутка ўплятаді за абедзьве шчокі радыску з тварагом. Пасьля сьнеданьня ашаломлены весткаю: едзе наш загадчык домам, наш Борка Ромм! Хлопцы захваляваліся, куды: чаму?—пасыпаліся пытаньні, а даведаўшыся, што Борка на другі дзень вернецца, супакоіліся і прыціхлі. Вышлі праводзіць і доўга махалі яму на разьвітаньні.

А дома ў гэты час прабіраліся чатыры таемных фігуры, падымаючыся на вышкі. Быццам рабаўнікі, з скрынкамі нейкага дроту пад пахамі, праскаўзнулі яны на страху і на вышкі. Раптам бляшаны дах... бум... падагнуўся пад нагамі таемных сьмельчакоў і загрымеў, як навальніца ў бурную ноч. Хлопцы паднялі галавы і зьдзівіліся: на страсе аказаліся нашы радыёгазэтчыкі—Лёнька Тэдаржыцкі, Руўка Фрыдман, Шурка Гаген і другі Шурка Т.

— Эй, вы, хутка будзе радыё?—пачалі з нецярплівасьці крычаць некаторыя.

— Тссс... Цішэй, ня шумеце! а то загадчык зловіць. Ён нам не дазваляе,—адказвалі радыё-зайцы.

Але вось провад прышчэплены к цынкаваму даху і імправізаваная антэна гатовы. Але бедным радыё-зайцам не шанцавала. Зазямленьне важная рэч у радыё, а яго ў няшчасных радыё-зайцаў ня было. Дзе дастаць? Доўга хадзілі, шукалі жалезных рэчаў і, нарэшце,—ура! удача, зазямленьне ёсьць! Найшлі недзе качаргу і да сямі потаў пацелі, пакуль загналі ў цьвёрды грунт гэтую жалезную палку. Але вось усё гатова. Антэна і зямля ўключаны ў прыёмнік, засталося толькі чакаць перадачы з Менску. І радыё-зайцы селі чакаць...

Прыемна ляжаць на сонцы з зачыненымі вачыма, але званок на абед перарывае ўсе мары. Як прыемна пахне цяпер ежа. Паабедаўшы, ідзеш адпачываць.Наступае так званая „мёртвая гадзіна“. Сягоньня мёртвая гадзіна празвалася гадзінай плачу, гора і хваляваньня па курах. Наш Мішка Лейбовіч ухапіў штук 10 курэй і давай іх рэзаць са спакойным сумленьнем на вячэру. Падняўся крык з боку „жаночага батальёну“.

— Ай, Мішка, навошта? Ня трэба! Кінь!..

Але Мішка не згаджаўся і рэзаў курам галаву за галавой. За гэта яго празвалі катам. Чаму так? Невядома. Але вось мёртвая гадзіна скончылася. Пачалося вячэрняе сьнеданьне, за якім неўзабаве вячэра і, нарэшце, сон на цэлых 9 гадзін.

# Што мы зрабілі за лета.

(Ляхоўскі раён, Менск).

Яшчэ на дварэ стаялі маразы. У камінох піонэрскіх клюбаў гудзеў вецер, а ўжо шмат якія атрады пачалі працаваць над пытаньнем, як лепш организаваць летнюю працу. Тут, бязумоўна, перш за ўсё паставілі піонэры сабе мэтай выйсьці ў лягэр. Для гэтага патрэбны вялікія сродкі. А дзе іх узяць? На профорганізацыі зусім не спадзяваліся. Піонэры самі на працягу доўгага часу зьбіралі сродкі.

У адшуканьні сродкаў піонэры даходзілі часта да „віртуознасьці“. Тут і платныя вешалкі на вечарох, лётарэі, аукцыёны, падпісныя лісты, суботнікі, организаваныя камсамольскімі ячэйкамі, выклікі праз насьценныя газэты, платныя вечары, кіно і інш (Энэргія, АДСТ, Зах. Чыгунка, ДКА).

І трэба адзначыць, што ў гэтым годзе лягерная кампанія прайшла куды лепш, чым у мінулым. Праца праведзеная з піонэрамі ў лягерах дала значныя вынікі, аб чым сьведчаць уражаньні бацькоў, калі яны наведвалі лягеры.

Асобнае месца патрэбна адвесьці ваенізацыі піонэраў у лягэрах. Некаторыя звеньні добра азнаёміліся з азбукай „МОРЗЭ“, рабілі вокамерныя здымкі мясцовасьці. У апошнія дні была праведзена вайсковая гульня (і на першай і на другой зьмене). Гульні прайшлі з надзвычайным посьпехам, паказаўшы спрытнасьць і выносьлівасьць піонэраў. У сэнсе ваенізацыі гульні далі вельмі многа. Праводзілі працу на полі, у РВК, з неорганізаванымі і г. д. З вялікім посьпехам праходзілі гутаркі каля вогнішча, на якія прыходзіла многа вясковых піонэраў, якіх гутаркі ля агню надта цікавілі.

Але ў лягерах піонэры былі толькі па два тыдні. Што-ж яны рабілі ўвесь летні час? Яны зрабілі многа, і пры тым, шмат новага. Пры некаторых атрадах у гэтым годзе былі організаваны летнія пляцоўкі (АДСТ) Камароўскі атрад), на организацыю якіх піонэры атдалі шмат часу і сіл. Яны з глухіх, абросшых крапівою і заваленых розным ламаччам садоў зрабілі культурныя куткі з чытальнямі, з кракетнымі пляцоўкамі, з пінг-понгам, шашкамі, шахматамі і інш. Але пакуль усё гэта зрабілі, прышлося „трохі паспрачацца з адміністрацыяй“. За кожны цьвік, за кожны кавалак дошкі прыходзілася спрачацца з заўхозамі і загадчыкамі. Але калі загадчыкі ўбачылі добрыя вынікі працы піонэраў, яны пачалі больш прыхільна адносіцца да таго, што рабілася. На гэтых пляцоўках разгорнута праца па прывабліваньню неорганізаваных дзяцей. *Камароўскі атрад на сваёй пляцоўцы організаваў новы атрад з 35 чалавек.* Ёсьць таксама рост і ў другіх атрадах, як, напрыклад, С.-Г. майстэрні, АДСТ.

Пры некаторых атрадах зьявіліся цікавыя гурткі, якія таксама паслужылі прычынай росту атрадаў. Пры заводзе „Энэргія“ існуе сьлясарны гурток, такі самы маецца і пры С.-Г. майстэрнях; пры АДСТ—вайсковы, пры Камароўскім атрадзе—электра-фото гурток; пры НКФ—сталярны. Існуюць гурткі і пераплётныя.

Цікава адзначыць, што некаторымі гурткамі кіруюць самі піонэры. Але не заўсёды гурткі працуюць як трэба (напрыклад, сталярны пры НКФ). Савет не зьвяртае належнае ўвагі на іх працу. Між іншым, ніводнага гуртка не організавалі бяз спрэчак з профорганамі або адміністрацыяй: ня йдуць яны на сустрэчу, не глядзяць на тое, што піонэраў гэтыя гурткі вельмі цікавяць.

Добрую пастанову вынес атрад АДСТ: у нядзелю абавязкова выходзіць за горад, каб хоць адзін раз на тыдзень падыхаць чыстым паветрам. Піонэры АДСТ ходзяць у Ждановічы, Сеніцу, хадзілі калектыўна ў Камароўскі лес па ягады, ідуць у вайсковыя лягеры, некаторыя атрады організоўвалі калектыўныя катаньні на лодках. У апошні час шмат якія атрады праводзяць экскурсіі на электрастанцыю, у музэй Рэволюцыі, на Хлебазавод.

Цяпер мы рыхтуем сутачны вайсковы паход, на які ўся організацыя павінна будзе аддаць шмат энэргіі, каб паход прайшоў як найлепш. **Новік.**

---

Мы маем шмат новых, значных дасягненьняў у галіне організацыі вольнага часу піонэраў.

## Пачалі дарэмна траціць грошы.

За апошні час наглядаецца, што піонэры купляюць адэкалён. Не дзяўчаты, а хлопцы! Прыходзяць на збор атраду намазаўшы свае валасы, ходзяць і кожнаму соваюць свае галовы, каб паглядзелі, які ад іх ідзе добры пах.

Я думаю, што купляць адэкалён, мазацца ім і прыходзіць так на зборы атраду для піонэраў зусім не гадзіцца.

Калі ёсьць лішнія грошы, дык лепш было-б выпісаць газэты і часопісі.

(Ляды, Аршаншчына). **Файтлін.**

## Вінаваты павадыр.

В мінулым годзе у **Бярэзіне** быў самым лепшым 20 атрад. Усё гэта было дзякуючы добрым адносінам павадыра да працы.

У гэтым годзе назначан на працу камсамолец, які дрэнна вядзе працу. А таксама райбюро піонэраў не зьвяртае ўвагі, што ўжо два месяцы ня было агульнага сходу. Павадыр, відаць, не зацікаўлены працай. Калі піонэры кажуць: „Трэба правесьці збор“, ён адказвае: „Няма мне часу!“

— „А калі?“

— „Ня ведаю!“

І вось „няведаю“ цягнецца ўжо два месяцы, як я помню, а піонэры ўжо забыліся, што яны піонэры.

А каторыя яшчэ не забыліся, дык падаюць заяву аб пераходзе ў 83-вясковы атрад, хоць туды іх ня прымаюць, кажучы: „у вас ёсьць мястачковы атрад!“.

Якое адгэтуль выйсьце? Ячэйцы трэба больш аддаць увагі атраду!

**Я. Роза.**

## Забыліся пра атрад.

У нас маецца чатыры піонэр-комсамольцы, якія з часу свайго паступленьня ў КСМ забыліся пра атрад і ніякай дапамогі атрад ад іх ня бачыць.

Тварышы комсамольцы, прымеце актыўны ўдзел у працы атраду, дапамажэце сваёй малодшай зьмене!

**Ю. Р.**

(Пярэвалацкі атрад Ю. П.).

## Гэтак ня добра.

Павадыр 31 атраду М. Быкаўскі прыходзіць на зборы амаль што не падрыхтаваным. Ад гэтага выходзіць тое, што ўсе гульні ён праводзіць няправільна. Нават на апошнім зборы адважыўся організаваць даўно ўсімі пакінутую гульню „масткі“.

Трэба, павадыр, пацікавіцца лепшымі, больш карыснымі гульнямі і вывучыць іх.

**Піонэр-комсамолец.**

(Зэмбін, Барысаўскага р.).



*Куток жывой прыроды пры Менской чыгуначнай школе.*




# Курка Рабка

*(З народнага.)*

Жылі дзедка з бабкай.
Мелі курку Рабку
Слаўнага заводу,
Важную на ўроду.
Баю-байкай байка:
Зьнесла курка яйка
Не абы якое,
Але залатое.
Выняўшы з падпечка
Дзіўнае яечка,
Кажа бабцы дзедка:
— „Гэта штука рэдка!
Трэба нам канешне
Зласаваць яешню!“
Бабка не пярэча,
Тупае ля печы:
Радая, вядома,
Дагадзіць старому.
Вогнік на камінку разьвяла ў часінку,
Ўстанавіла спраўна
Дзьве цаглінкі слаўных,
Зьверху-ж скавародку.
Узяла са сподку
Лыжку масла жыва,
Каб была пажыва.
Біць яечка стала,
Ды бяда спаткала,
Біла яго, біла,
Ніяк не разьбіла.
Біў і дзедка ладна—
Няма рады жаднай.
Сталі, разважаюць,
Што рабіць ня знаюць.
Ў часе гэтых гадак
Здарыўся прыпадак.
Мышка-доўгі хвосьцік-
Бегла шпарка штосьці,
Мо‘ па важнай справе,
Просьценка па лаве.
Ды, нібы праз зводы,
Нарабіла шкоды.
Пасьпяшала трошку,
Пасьлізнула ножка,
Хвосьцікам махнула,
Яйка паштаўхнула,
Незнарок скаціла
Вобземлю й разьбіла.
Дзедку з бабкай страта:
Плачуць на ўсю хату,
Як дзіця якое,
Сьлёзы льлюць абое:—
„Гэткая прыгода!
„Вось яечка шкода!“
Курачка-ж кудахча:
„Ну, й старых удача!
Ды й бяды ўжо тыя—
Плачуць, як малыя—
Я-ж зьнясу другое,
Хоць не залатое!“

Гэту казку спатайку
У дзіцячым нейк садку
Прачытаў я, як на грэх,
Двум сябрам кастрычаняткам
І дастаў ад іх парадкам—
Паднялі мяне на сьмех:
— „Тут павінна быць памылка,
Ці зманіў нам дзядзька Жылка.
Бо, як кажа нам навука,
Немагчыма гэта штука,
Хоць шукай у дзень са сьвечкай,
Курка каб зьнясла яечка
Не прастое, залатое
Ды і моцнае такое,
Што і дзед і бабка білі,
Білі, білі, не разьбілі
І на лаву палажылі,
Мышцы страху нарабілі.
Гэткай рэчы з нас усяк
Не паверыць ані як“.

Гэтак мне сказаў Ры
Патакнуў яму Зыдо
—„Але знаем мы дз
Што з яечка, хоць прастога,
Для дзяцей пасілку многа.
Тым каштоўнае яно.
І таму вось залатое
І для дзетак дарагое!“
І на гэты іхні сказ
Мой такі ім быў адказ:
– „Ад пачатку да канца
Вы, браткі, казалі трапна.
Ні што іншае, як вапна—
Лушпавінка ад яйца,
А ў яйцы пажытку шмат,
Таму кожны зьесьці рад.
Дык прашу вас, калі ласка,
Прыгадаць, што гэта казка
І пра дзедку і пра бабку
І пра курку Рабку“.

**Уладзімер Жылка.**



## У дзіцячым садзе.

У садзе для дзяцей многа работы. Адны капаюцца ў пяску, другія—працуюць на гародзе, трэція — гуляюць у цацкі. На гародзе дзеці разам з кіраўнікамі ўскапалі і засеялі каля дзесяці градак. Пры тым цікава, што дзеці, якія дома не займаюцца фізычнай працай, любяць займацца ёю, і вельмі былі задаволены працай на гародзе.

На градках дзеці пасадзілі і тыя расьліны, якія ў халодныя дні расьлі ў памяшканьні: цыбулю, боб, буракі, і кожны дзень даглядаюць іх і сочаць за іх ростам.

Менск, дзіцячы сад № 8. **А. В.**



ЦАНА 12 кап.

# АБ УСІМ ПАТРОХУ.




## Аўтамабіль-ракета.

Вядомая нямецкая аўтамабільная фірма „Опэль“ пабудавала цікавы аўтамабіль, які прыводзіцца ў рух ня бэнзынаю, а порахам. Па сваім знадворным выглядзе ён нічым не адрозьніваецца ад звычайнага аўтамабіля, калі ня лічыць крыху паднятай задняй часткі, дзе зьмешчаны парахавыя цыліндры. Порах трапляе ў цыліндры і кароткімі парахавымі выбухамі поршні прыводзяцца ў роўнамерны рух. Ледзь толькі шофэр прыводзіць у рух матор, у цыліндры раздаецца выбух, уся машына агортваецца дымам, і з цыліндраў вылятае язык полымя. Машыну з месца кідае наперад з такой хуткасьцю, якой дагэтуль аўтамабілю не ўдавалася дасягаць.

У тры-чатыры хвіліны аўтамабіль-ракета можа лёгка разгарнуць хуткасьць у 400 кілём. у гадзіну.

## Дзіўныя аздобы.

Дзікія народы вельмі любяць прыбіраць сябе дзіўнымі, на наш погляд, рэчамі.

Адным з самых пашыраных спосабаў аздобы зьяўляецца „татуіроўка“, г. зн. наколваньне шпількамі на скуры ўсякіх рысункаў. Гэта вельмі балючая апэрацыя.

На нашым малюнку паказаны малады нэгр з Афрыкі, рука якога пакрыта выпуклай татуіроўкай, зробленай асобным спосабам. Зьвярнеце таксама ўвагу на яго прычоску.

## Аэрадром Бэрліна.

Начная пасадка самалёта зьвязана з нямалымі небясьпекамі, але самыя апошнія дасягненьні немцаў у галіне ўдасканаленьня аэрадромаў дазваляюць садзіцца самалётам гэтак-жа бясьпечна ўночы, як і ўдзень. На бэрлінскім аэрадроме пастаўлены дзьве высокія матчы. На сваіх вяршынях яны маюць моцныя крыніцы чырвонага сьвятла.

Летнік, заўважыўшы здалёк чырвоныя агні, беспамылкова набліжаецца да аэрадрому. Калі яго самалёт даволі блізка, ён выразна распазнае чырвоныя агні, якія сыгналізуюць па „азбуцы Морзэ“ літару „Б“. Каб зрабіць удалую пасадку, трэба ведаць яшчэ і кірунак плыні ніжніх пластоў паветра. Самалёт павінен садзіцца заўсёды проці ветру. Аб кірунку ветру летнік даведваецца па невялікім асьветленым самалёце, насаджаным на асобную мачту.



## Кракадзілавыя фэрмы.

Апрацованая кракадзілавая скура вельмі прыгожа. Кожны, напэўна, бачыў прыгожыя портфэлі і другія прадметы, зробленыя з яе. Але набыць гэту ску-



ру ня лёгка, бо кракадзіл вельмі асьцярожная жывёла і забіць яго цажкавата.

Апрача таго, паляваньне на кракадзіла небясьпечна. Вось чаму практычныя амэрыканцы арганізавалі некалькі кракадзілавых фэрмаў, дзе гэтыя вялізныя жывёлы жывуць і плодзяцца. На нашай фотографіі паказана чатыры нованароджаныя кракадзілы і шкарлупы яек, з якіх яны вылупіліся.

## З ветранымі рухавікамі праз акіян.

Два ангельцы пабудавалі нядаўна невялікі чаўнок, у якім адпраўляюцца ў далёкую падарож праз Атлянтыцкі акіян. Чаўнок ня мае ні паравой машыны, ні паруса, ні нават вёслаў, Галоўным і адзіным рухавіком служыць вятрак, пабудаваны ў выглядзе пропэльлера і злучаны з коламі чаўна. Прапэльлер круціць колы чаўна і апошні такім чынам рухаецца.

1-я друкарня БДВ. Заказ № 3166. Галоўлітбел № 1992.